№ 13(158)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

**Кастрычнік 2013 г.**

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Базавая велічыня вырасла да 130 тысяч рублёў.**

Паўтары гады яна складала 100 тысяч рублёў. Рашэнне аб устанаўленні новай базавай велічыні было прынятае пастановай ураду.

З яе дапамогай вылічваюцца шматлікія паказчыкі і нарматывы ў сферы працоўных праваадносінаў, вызначаецца памер пошлінаў і штрафаў. Да 2002-га штрафы ў нашай краіне вылічваліся ў адносінах да мінімальнага заробку, нагадвае БЕЛТА.

### У Прыдняпроўі

**Магілёўцы хочуць атрымаць для свайго горада званне "Горада-героя".**

З такой ініцыятывай выступілі ветэраны абласнога цэнтра.

Яны адзначаюць, што Магілёў падчас Вялікай Айчыннай вайны трымаў абарону 23 дні і ночы і вельмі вялікі ўдзел у гэтым прымалі шараговыя жыхары, перадае тэлеканал СТВ.

З адпаведнай просьбай магілёўскі ветэраны звярнуліся ў ў Выканкам СНД.

### У раёне

**У бялыніцкіх арганізацыях адбыліся кадравыя змены.**

Падпалкоўнік юстыцыі Дзмітрый Налівайка загадам старшыні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь прызначаны начальнікам раённага аддзела Следчага камітэта. Дзмітрый Уладзіміравіч скончыў Магілёўскі дзяржаўны машынабудаўнічы інстытут, Акадэмію МУС Беларусі. Следчай дзейнасці ён прысвяціў 20 гадоў.

Прызначаны і новы начальнік РКЦ №10 Бялынічаў філіяла ААТ "Белаграпрамбанк" – Магілёўскае абласное ўпраўленне. Ім стала былы начальнік аддзела розьнічных паслуг РКЦ №4 горада Клімавічы Юлія Давыдава. У банкаўскай сферы Юлія Анатольеўна працуе ўжо амаль дзесяцігоддзе.

# НЕ ТОЙ «НАРОДЗЕЦ»?

***У мяне складваецца ўражанне, што газета «Паходня" з'яўляецца любімай газетай нашага беларускага кіраўніцтва.***



А як інакш думаць, шаноўныя чытачы, – толькі ў мнулым нумары "Паходні" у артыкуле "За слабую, "зачуханую" Беларусь" выказаў таемныя меркаванні нашых слаўных беларускіх чыноўнікаў пра тое, што яны ў нас вельмі добрыя, толькі вось сам народ і апазіцыя "падкачалі" – вельмі дрэнныя, як тую ж думку падхапіў наш ненаглядны Аляксандр Рыгоравіч на "Дажынках" у Жлобіне.

Нагадаю, што распавёў наш "усенародна абраны" кіраўнік краіны пра свой недалёкі "народзец", які ўвесь час перашкаджае яму, бязгрэшнаму, добра кіраваць і рабіць людзей шчаслівымі і багатымі:

«В последние месяцы, я смотрю, наш народец побежал в обменные пункты. Ну, бегите. Бегите! Будет спрос на валюту большой – будет обесцениваться белорусский рубль со всеми вытекающими последствиями. Не будет спроса – будет спокойная ситуация на рынке. Это я говорю уже во второй раз за последний месяц. Мы уже научены горьким опытом. Еще раз подчеркиваю: ваша судьба в этом плане в ваших руках. Государство будет использовать все инструменты для того, чтобы не допустить этих резких колебаний».

Вось гэтыя свалачугі, "народзец" беларускі, зноў перашкаджаюць кіраўніку краіны добра працаваць. І робяць гэта ўжо, лічы, недарэкі, амаль дваццаць гадоў. Не вязе Рыгоравічу і нашым цудоўным чыноўнікам з "народцам", ну хоць ты трэсні. У 2011 годзе, нягоднікі, кінуліся валюту скупляць, з-за мяжы аўтамабілі і "шмоткі" ўвозіць, зараз іх зноў за межы квітнеючай Беларусі нейкі чорт за таварамі гоніць. Вось і атрымліваецца, што нашым, вельмі добрых і адукаваным кіраўнікам, якія, за амаль дваццацігоддзе бесперапыннага кіравання, пабудавалі выдатную эканоміку "моцнай квітнеючай Беларусі", толькі беларускі "народзец" і перашкаджае.

Праўда, не адзін народ у нас дрэнны, "свядомыя", гады з апазіцыі, таксама зноў перашкаджаюць будаваць усеагульнае шчасце, "плявузгаюць" паўсюль языкамі:

«Как бы я этого ни хотел, инструменты для ухода от девальвации в ваших руках. Если вы будете бегать с утра до вечера по обменным пунктам и скупать валюту, если

*(Працяг на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НЕ ТОЙ «НАРОДЗЕЦ»?

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

субъекты хозяйствования и банки будут спать и видеть, что девальвация пройдет, кто-то на этом выиграет и так далее, ожидания будут порождаться, а наши негодяи свядомые, которые плявузгают языками во всех средствах массовой информации, народ будут подогревать, а вы будете их слушать и опять бежать в пункты обмена, вы сами приведете к тому, что ослабите свою национальную валюту», - сказаў наш любімы кіраўнік.

Ну і адкуль толькі гэтыя “ворагі народа” ізноў выпаўзлі? Толькі я ў мінулай “Паходні” напісаў пра тое, што на шляху будаўніцтва светлай будучыні для нашых выдатных кіраўнікоў не засталося ніякіх перашкодаў, бо апазіцыя спляжаная амаль дашчэнту, у турму, гады, ісці ізноў ні за што не хочуць. А тут аджыліся, нягоднікі, і зноў перашкаджаюць “квітнець”, так жа самы наш галоўны чыноўнік кажа, трэба ж верыць.

Праўда, мяне гэта крыху здзіўляе – як гэтыя праклятыя наймiты злобных буржуінаў столькі гадоў перашкаджаюць пабудаваць нашым лепшым у свеце чыноўнікам нешта больш-менш прыстойная, калі іх ва ўладзе ўжо няма з 1996 года? А тут яшчэ ўспомнілася, што сам наш ненаглядны Аляксандр Рыгоравіч пару год таму сказаў, што ўсёй апазіцыі ў Беларусі – некалькі соцен чалавек, і ўсіх гэтых гадаў улады ведаюць і кантралююць.

Нешта мне стала не зусім зразумела,як гэта некалькі сот праклятых наймітаў буржуінаў, якія знаходзяцца пад поўным кантролем улады, могуць перашкаджаць сотням тысяч нашых чэсных і справядлівых чыноўнікаў, ідэолагаў і міліцыянераў будаваць квітнеючую краіну?

Можа іх усіх лепш у концлагер адправіць, як у нацыстскай Германіі, “у якой было і не толькі дрэннае”, як казаў адзін усім вядомы палітык, тады ўжо дакладна будзе Беларусь квітнець яшчэ больш пад мудрым кіраўніцтвам нашых слаўных чыноўнікаў?




Ды не, іншыя краіны не зразумеюць, ды і ні на што нягодны “народзец” застанецца, усіх жа ў канцлагер не адправіш…

А тут яшчэ паразмаўляў са сваім старым сябрам Рыгорам Кастусёвым, і яшчэ больш сумнеў наконт слоў нашага любімага кіраўніка закраўся. Гэты “свядомы” нягоднік (канешне, маю на ўвазе Рыгора Андрэевіча, а не нашага ўсенародна любімага Аляксандра Рыгоравіча) ну ніяк не хоча весьці сябе так, як распавядаюць нашы самыя чэсныя ў свеце кіраўнікі пра гэтых свалачуг з апазіцыі. Намеснік старшыні асноўнай апазіцыйнай Партыі БНФ, а за мяжу, гад, ездзіць толькі па працы. І шмоцце замежнае адтуль, нягоднік, не валачэ, апранаецца ў беларускую вопратку, ежу таксаму нашу есць. Кажа, што сала з гарэлкай любя, аднак я не веру, – прыкідваецца, буржуінскі найміт. Адпачывае таксама тут у нас у Цяхціне ў бацькоўскай хаце, шыкоўнага катэджа не пабудаваў, як большасць нашых слаўных і чэсных чыноўнікаў – відавочна, шпіён.

Але ж пару год таму сам наш любімы Рыгоравіч сказаў, што Кастусёў – сумленны чалавек. Як жа не паверыць нашаму нязменнаму кіраўніку, тут жа ўжо нікуды не дзенешся…

Дык вось якія свае думкі мне Рыгор Андрэевіч пра выступ кіраўніка Беларусі на “Дажынках” выказаў.

Каб беларусы не вывозілі валюту за мяжу, на думку намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, трэба стварыць умовы для вытворчасці якаснай прадукцыі ўнутры краіны.

“Лукашэнка вінаваціць усіх, толькі не хоча бачыць рэальных прычынаў тых негатыўных працэсаў, якія адбываюцца ў Беларусі. Ён звінаваціў беларусаў і ў тым, што яны вывозяць вялікую колькасць грошай за мяжу, купляючы там тавары. Карацей, ён вінаваціць беларусаў ва ўсіх хібах і дэвальвацыі. Але каб беларусы куплялі беларускае, трэба каб яно адпавядала нейкім нормам, каб было добрае па якасці, выглядала прыемна і не было сорамна апрануць на чалавека. Але калі тавары не адпавядаюць якасці, то хто ж іх будзе купляць?”…

І яшчэ падкрэсліў, нягоднік:

«Аддаю перавагу беларускім прадуктам і вопратцы ў адрозненні ад шматлікага войска беларускіх чыноўнікаў і асабіста Аляксандра Лукашэнкі».

Тут і я пра нешта задумаўся – праўду ж кажа, супастат і найміт. Як не глянеш, усе нашы слаўныя і чэсныя чыноўнікі, на чале з самым галоўным, апрануты спрэч у замежнае шмоцце.

*(Заканчэнне на стар. 3)*

## НАШУМЕЛУЮ КНІГУ БЫХАЎСКАГА ПІСЬМЕННІКА НАДРУКУЮЦЬ У ЛІТВЕ

***Раман быхаўскага пісьменніка Сяргея Антонава "Стабілізатар. Мінск 2041" будзе выдадзены ў Літве на літоўскай мове. Як паведаміў сам Сяргей Антонаў, адпаведнае пагадненне днямі дасягнута з прадстаўнікамі каўнаскага выдавецтва "Эрыданас".***



***Сяргей Антонаў***

Згодна папярэдняй дамове, першапачатковы наклад кнігі складзе тысячу асобнікаў. Калі кніга знойдзе попыт у літоўскіх чытачоў, то будзе надрукаваны дадатковы наклад.

Кніга Сяргея Антонава "Стабілізатар. Мінск 2041" з'явілася ў інтэрнэце на рускай мове зімой гэтага года і выклікала вялікі рэзананс у чытачоў. У рамане, які класіфікуецца, як "баявое фэнтазі", распавядаецца аб верагоднай будучыні нашай краіны, калі яе кіраўніцтва будзе прытрымлівацца сучаснага курса.

Па словах Сяргея Антонава, у рамане ён давёў да абсурда ўсё тое, што ў нас зараз адбываецца, і паказаў, што можа быць з краінай праз тры дзесяцігоддзі, калі сітуацыя не зменіцца.

Сяргей Антонаў спрабаваў выдаць кнігу ў друкаваным выглядзе на рускай мове ў Беларусі і Расіі, аднак гэтага не атрымалася зрабіць. Выдавецтвы адмаўлялі пісьменніку ў друк на той падставе, што, на іх думку, раман "Стабілізатар. Мінск 2041" залішне палітызаваны, у кнізе зашмат вострых вуглоў. Па словах Сяргея Антонава, некаторыя чыноўнікі наогул палічылі яго кнігу "ідэалагічнай дыверсіяй".

"Добра, што нарэшце кніга выйдзе і ў друкаваным выглядзе, хоць і на літоўскай мове, - кажа Сяргей Антонаў. –На жаль, у Беларусі гэтага зрабіць не атрымалася. Але я не губляю надзеі, што калі-небудзь "Стабілізатар" у папяровым выглядзе будзе надрукаваны на рускай мове, і чытачы ў Беларусі змогуць яго прачытаць".

Пісьменнік і журналіст з Быхава Сяргей Антонаў вядомы сваім удзелам у праекце "Вселенная метро" Дзмітрыя Глухоўскага, агульны наклад яго кніг у жанры "фэнтэзі" перавышае 250 тысяч экзэмпляраў.

Сяргей Антонаў – сябар Партыі БНФ, выдавец быхаўскай маланакладнай незалежнай газеты "Стары замак".

***Вікторыя Бялова***

## В БЕЛЫНИЧАХ ВОРУЮТ ВЕЛОСИПЕДЫ

12 сентября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя г.п. Белыничи 1963 г.р., неработающего, не судимого, который 3 сентября в 11-30 от здания ОАО «АСБ Беларусбанк» по ул. Советской похитил велосипед у местной жительницы 1966 г.р.. Похищенное изъято.

19 сентября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя г.п. Белыничи 1965 г.р., не судимого, который 14 сентября в 11-20 с велосипедной площадки возле магазина по ул. Калинина похитил велосипед жительницы пос. Васильщивна 1979 г.р.. Похищенное изъято. Мера пресечения не избиралась.

## В КРУГЛЯНСКОМ РАЙОНЕ НАЧАЛАСЬ РЕАЛИЗАЦИЯ ПРОЕКТА ПО ВЫРАЩИВАНИЮ КРОЛИКОВ

Проект по строительству кролиководческой промышленной фермы уже вступил в стадию реализации. С предложением заниматься разведением кроликов выступило ООО «Фаворит-Агро». Для этих целей инвестору выделен земельный участок вблизи деревни Скураты Круглянского района – в двадцатикилометровой зоне от городского поселка.

ООО «Фаворит-Агро» планирует в год получать порядка 700 т мяса кролика. До 70% производимых объемов общество намерено экспортировать.

Мясо кроликов также будет поставляться на Оршанский мясокомбинат для производства детского питания. Появлению в розничной торговле региона мясных полуфабрикатов поспособствует строительство цеха по переработке крольчатины, что предусмотрено вторым этапом развития инвестпроекта.

## НЕ ТОЙ «НАРОДЗЕЦ»?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 2)*

У кватэрах таксама ўсё імпартнае, пра аўтамабілі я наогул маўчу – дзе вы бачылі беларускага чыноўніка на "Самандзе" ці гонары беларуска-кітайскага аўтапрама Geely? Ну а дзетак нашых патрыётаў-чыноўнікаў вы самі можаце разгледзець, паважаныя чытачы, адразу ўбачыце, у што яны апранутыя і на чым ездзяць.

Аднак пра што гэта я, "нячэсны" (вы ж памятаеце, што ўсе незалежныя журналісты ў нас "нячэсныя", так самы наш галоўны чыноўнік сказаў, значыць, праўда), пішу, нашым чыноўнікам і іх любімым дзеткам у Беларусі ж усё можна. Беларусь жа – гэта ж дзяржава для народа, а менавіта яны, чыноўнікі і начальнікі, народ і ёсць. Ва ўсялякім выпадку, так яны самі думаюць.

Усе ж іншыя беларусы – для іх проста "народзец"…

***Іван Барысаў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАТРЫМАНЫ ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР ААТ “КРЫЧАЎЦАМЕНТАШЫФЕР” ПА-РАНЕЙШАМУ ЗНАХОДЗІЦЦА НА “ДОШЦЫ ГОНАРУ”

***Партрэт затрыманага ў сярэдзіне мінулага месяца па падазрэнні ў крадзяжы грашовых сродкаў у памеры 40 мільёнаў рублёў генеральнага дырэктара ААТ “Крычаўцаменташыфер” Леаніда Скоцкага па-ранейшаму “упрыгожвае” “Дошку гонару” Крычаўскага раёна.***

Пра гэта паведаміла ў апошнім нумары крычаўская незалежная газета “Вольны горад”.

Як паведамляла БелТА, Леанід Скоцкі спрабаваў прысвоіць 40 мільёнаў рублёў, выдадзеных працаўнікам прадпрыемства ў якасці прэміі “за эканомію паліўна-энергетычных рэсурсаў” у першым паўгоддзі 2013 года. Ён быў затрыманы супрацоўнікамі МУС і КДБ пры перадачы грошай, Следчы камітэт распачаў супраць яго крымінальную справу па частцы 3 артыкула 210 Крымінальнага кодэкса — крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры. Зараз генеральны дырэктар ААТ “Крычаўцэменташыфер” знаходзіцца ў следчым ізалятары Магілёва.

Раней Леанід Скоцкі працаваў намеснікам старшыні Крычаўскага райвыканкама, на момант арышту ён таксама з’яўляўся членам Крычаўскага раённага выканаўчага камітэта. У 2012 годзе Леанід Скоцкі быў прызнаны “Чалавекам года” Крычаўскага раёна.

Між тым, журналісты крычаўскай незалежнай газеты “Вольны горад” раней неаднаразова засяроджвалі ўвагу на непрыстойных справах чыноўніка, аднак да іх меркаванняў улады прыслухоўвацца не пажадалі.

“Аб справах Леаніда Скоцкага мы пісалі яшчэ тады, калі ён быў начальнікам ДЭУ-198 і быў замяшаны ў продажы асфальту камерсантам пры будаўніцтве аўтастаянкі каля крамы “Эльдарада”, - распавядае журналіст газеты “Вольны горад” Мікалай Гердзій. – У рангу намесніка старшыні райвыканкама ён заключыў дамову на ўсталяванне аконных блокаў з мінскай камерцыйнай фірмай, якая потым знікла, а 80 мільёнаў бюджэтных грошай так, здаецца, і не знайшлі.




Працуючы ў Крычаўскім раёне на розных пасадах, Леанід Скоцкі нідзе не праявіў сябе ні як будаўнік, ні як кіраўнік. У 2012 годзе “Вольны горад” неаднаразова распавядаў пра тое, як Леанід Скоцкі на пасадзе генеральнага дырэктара адбудоўваў дом па вуліцы Берагавой у Крычаве з выкарыстаннем працы работнікаў і матэрыялаў прадпрыемства, плоцячы за гэта “капейкі” у параўнанні з рэальным коштам. Аднак да незалежных журналістаў улады прыслухоўвацца не жадалі”.

***Сяргей Семяновіч***

## НА БЫЛОГА ДЫРЭКТАРА “МАГІЛЁЎРАМБЫТТЭХНІКІ” ПАЧАЛІ КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ

**Экс-дырэктару пагражае да двух гадоў пазбаўлення волі.**

Як піша “Народная Воля”, праверка Камітэта дзяржкантролю выявіла, што дырэктар наўмысна ўхіляўся ад пагашэння крэдыторскай запазычанасці прадпрыемства.

Падчас праверкі “Магілёўрамбыттэхнікі” былі выяўленыя факты нямэтавага выкарыстання бюджэтных сродкаў, незахавання парадку бухгалтарскага ўліку і вядзення касавых аперацый, тэрмінаў выплаты заробкаў, скажэння статыстычнай справаздачнасці і шматлікія іншыя парушэнні.

Па выніках праверкі на прадпрыемства і яго работнікаў накладзеныя штрафы на суму больш як паўмільярда рублёў. Таксама Дзяржкантроль спыніў незаконнае атрыманне і неэфектыўнае выдаткоўванне 2 мільярдаў рублёў з абласнога бюджэту.

## П’ЁМ УСЁ БОЛЬШ

У бягучым годзе на тэрыторыі Бялыніцкага раёна нападпітку зроблена 41 злачынства. Да адміністрацыйнай адказнасці за распіццё альбо знаходжанне на вуліцы ў стане алкагольнага ап’янення прыцягнута 542 грамадзяніна, што на 147 болей у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. 25 грамадзян, якія злоўжывалі спіртнымі напіткамі, направлены ў ЛПП.

# ПАРТЫЯ БНФ – ЛУКАШЭНКУ: БЕЛАРУСЫ – НАЦЫЯ, А НЕ НЕЙКІ "НАРОДЗЕЦ"!

***Намесьнік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў адрэагаваў на скандальнае выказваньне на адрас беларускага народу, што прагучала з вуснаў Аляксандра Лукашэнкі падчас сьвяткаваньня "Дажынак-2013".***




У прыватнасьці, гаворачы пра перасьцярогі беларусаў што да магчымай дэвальвацыі беларускага рубля, Лукашэнка назваў беларусаў "народцам". Ён сказаў літаральна так: "Но в последние месяцы, я смотрю, наш народец побежал в обменные пункты. Ну, бегите. Бегите!"

У сувязі з гэтым, намесьнік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў зрабіў наступную заяву:

"Ужываньне на адрас беларусаў абразьлівага вызначэньня "народзец" зьяўляецца недапушчальным. Гэта наўпроставая абраза нацыянальнай годнасьці беларускага народу. Такім чынам аўтар гэтага ганебнага выказваньня прадэманстраваў, што насамрэч ён беларусаў не паважае і не лічыць вартымі якога-кольвек сур'ёзнага стаўленьня.

Адзначу таксама, што словы Лукашэнкі красамоўна сьведчаць пра яго сапраўдныя адносіны ня толькі да беларускай нацыі як такой, але і да той яе часткі, якая да гэтага часу падтрымлівае ягонае аўтарытарнае праўленьне. Кожнаму, хто яшчэ мае ілюзіі адносна "народнасьці" палітыкі сёньняшняй улады, трэба нарэшце задумацца. Калі кіраўнік дзяржавы не знаходзіць нічога лепшага, як называць грамадзян дзяржавы "народцам" ды спрабуе ускласьці на беларускі народ адказнасьць за дэвальвацыю і за вартыя жалю наступствы ўласнай хібнай эканамічнай палітыкі – дык можа праблема ўсё ж не ў народзе, а ў гэтым кіраўніку?!

Беларусы – нацыя, а не нейкі "народзец"! А тыя палітыкі, што думаюць адваротным чынам, непазьбежна ў хуткім часе застануцца на ўзбочыне гісторыі."

## В ТЕХТИНЕ ПОЯВИЛСЯ НОВЫЙ ПЕРЕДАТЧИК «РАДИО МОГИЛЁВ»

Введен в эксплуатацию радиовещательный передатчик для эфирной трансляции программы «Радио Могилев» в агрогородке Техтин Белыничского района Могилевской области.

Как сообщило РУП "Белорусский радиотелевизионный передающий центр", 24 сентября 2013 года с АРТПС в агрогородке Техтин Могилевской области введен в эксплуатацию радиовещательный передатчик для эфирной трансляции звуковой программы "Радио Могилев" на частоте 106,8 МГц мощностью 0,25 кВт. Теперь в FM-диапазоне на частоте 106,8 МГц жители агрогородка, а также близлежащего райцентра – г.п.Белыничи – могут принимать в стереокачестве радиостанцию «Радио Могилев».

## Средняя зарплата работников Могилевской области превысила 5 миллионов рублей

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-августе 2013 года составила 4 456 тысяч рублей. В августе средняя зарплата составила – 5 024 тысячи рублей, что по сравнению с июлем 2013 больше на 89 тысяч рублей (на 1,8%)- сообщили в отделе статистики труда Главного статистического управления Могилевской области.

В августе 2013 в промышленности средняя заработная плата составила 5 697 тыс. рублей, в строительстве – 6 402 тыс., на транспорте и в связи – 5 776 тыс., в сельском хозяйстве, охоте и лесном хозяйстве – 4 256 тыс..

## ПИСАТЕЛЬНИЦУ ИЗ БЕЛЫНИЧ ПОКАЖУТ ПО «БЕЛАРУСЬ-2»

Наталья Батракова родилась в Белыничах, сейчас живет в Минске. Наша землячка - одна из самых популярных современных прозаиков в Беларуси.

Романы-дилогии «Территория души» и «Площадь согласия» стали бестселлерами на белорусском книжном рынке. Её роман «Миг бесконечности» в 2-х томах признан наиболее продаваемой художественной книгой в Беларуси в 2012 году.

Наталья Батракова – гость программы «Интервью по средам». Эфир – 9 октября в 17:55, на телеканале «Беларусь-2». Повтор – 10 октября, в 7:30, сообщает телерадиокампания "Могилёв".

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СОСНОВ: НАЛОГ НА «ТУНЕЯДЦЕВ» - ОЧЕРЕДНАЯ БЕЗУМНАЯ ИДЕЯ ВЛАСТЕЙ

***Поборами с людей чиновники пытаются найти средства для спасения имиджа правителя.***

Таким образом бывший министр труда и социальной защиты Александр Соснов прокомментировал сайту charter97.org идею о том, что официально неработающие белорусы должны больше платить за коммунальные услуги, проезд и здравоохранение.

«Все прекрасно понимают, что это очередная глупость и реализация очередных безумных идей безумного руководства. Что касается технической возможности сделать это, то это довольно сложно. Даже если говорить об оплате за проезд, хотя это самая простая из тех услуг, об оплате которых идет речь. Что касается коммунальных платежей, то как будет их выплачивать семья, живущая в квартире, хозяин которой, например, работает не в Беларуси, а остальные — здесь? Технически эта проблема неразрешаема», - заявил Александр Соснов.

Бывший министр рассказал и о причинах нововведений, озвученных заместителем министра труда и соцзащиты Петром Грушником.

«Это очередные поборы с людей. Просто новым способом. Они вызваны отсутствием достаточного количества средств для того, чтобы поддерживать имидж правителя», - сказал он.

Вопрос о том, насколько справедливо считать белорусов, которые официально не работают, «тунеядцами» и «иждивенцами», как их называют чиновники, Александр Соснов посоветовал переадресовать сторонникам сталинского режима.

«Они точно ответят: те, кто не с нами, те — против нас, поэтому их можно называть «отморозками», «тунеядцами» и так далее. На самом деле, условия оплаты труда, которые созданы в стране, не соответствуют современным требованиям. Поэтому люди вынуждены искать возможность зарабатывать на жизнь любым способом».




В Беларуси прорабатывается вопрос по определению механизма компенсации неработающим экономически активным населением части государственных расходов на оказание им и их семьям социальных и иных услуг, дотируемых государством. Об этом сообщил первый заместитель министра труда и социальной защиты Петр Грушник на онлайн-конференции, которая прошла 30 сентября на сайте ведомства.

Чиновник отметил, что в соответствии со статьей 56 Конституции Республики Беларусь граждане обязаны принимать участие в финансировании государственных расходов путем уплаты государственных налогов, пошлин и иных платежей.

## БЯЛЫНІЧАНЕ ПАВІНШАВАЛІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Бялыніцкія актывісты “Гавары праўду” даслалі свае віншаванні кіраўніку Праваабарончага цэнтра “Вясна” і віцэ-прэзідэнту Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Алесю Віктаравічу Бяляцкаму.

Савет Еўропы 30 верасня абвясціў аб прысуджэнні праваабарончай прэміі імя Вацлава Гаўла за 2013 год Алесю Бяляцкаму - старшыні Праваабарончага цэнтра “Вясна” і Віцэ -прэзідэнту FIDH.

Нагадаем, што ў жніўні 2011 г. вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за сваю праваабарончую дзейнасць.

Разам са сваімі калегамі па заснаваным ім у 1996 годзе Праваабарончым цэнтры “Вясна”, Алесь займаўся аказаннем дапамогі вязням сумлення і членам іх сем’яў. Дзейнасць арганізацыі рэальна замінала рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, які прыгаварыў у выніку Алеся Бяляцкага за ўхіленне ад выплаты падаткаў (з сумаў, атрыманых арганізацыяй з-за мяжы на вядзенне сваёй праваабарончай дзейнасці) да тэрміну ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыі офіса арганізацыі.

Зараз Алесь Бяляцкі адбывае пакаранне за сценамі Бабруйскай выпраўленчай калоніі № 2.

Любы жадаючы напісаць некалькі слоў у падтрымку беларускіх палітвязняў можа атрымаць адмысловыя паштоўкі ў краме бялыніцкага актывіста “Гавары праўду” Мікалая Мяцеліцы.

***Ірына Беганкіна***

# ДЕНЬГИ КПСС НИКУДА НЕ ИСЧЕЗЛИ

## их поделила между собой партийная номенклатура

***В шесть часов утра 19 августа 1991 года население Советского Союза узнало, что в стране начался путч. Власть в свои руки попытался взять Государственный комитет по чрезвычайному положению - ГКЧП. Его члены объявили, что берут на себя руководство вместо президента СССР Михаила Горбачёва. Но долго поруководить им не пришлось, через несколько дней участников переворота арестовали. В последовавших за этим событиях случилось то, что назовут потом одной из самых засекреченных тайн КПСС.***

Переворот, затеянный ГКЧП, провалился, но кто получил наибольший успех в результате провала путчистов? Новую власть в России возглавили Борис Ельцин и его окружение, в Беларуси также начались демократические обновления. На первый взгляд, сторонникам перемен в эти памятные августовские дни достались все лавры победителей. Только вот пока они радовались эфемерной славе борцов с путчем, недавние хозяева райкомов и обкомов ускорено завершали тайный передел собственности и финансов коммунистической партии.

Партноменклатура готовилась к этому заранее, тщательно маскируя всё, что было связано с финансовыми потоками КПСС. Речь идёт не только про банковские счета, не забывали и про нежелательных свидетелей. Вряд ли это совпадение, что в одночасье покончили с собой глава партийной казны и его заместитель. Деньги КПСС растворились в неизвестности, породив потом первых постсоветских миллионеров.

Конечно, проводились официальные и неофициальные расследования, чтобы раскрыть самый большой секрет партии. Но полученные сведения лишь подтверждали уже общеизвестное. Пока демократы разбирались с путчистами, номенклатурщики занимались распилом огромных средств, ставших на какое-то время бесхозными. К примеру, у нас в Беларуси осенью 1991 года была создана Временная комиссия Верховного Совета во главе с депутатом парламента И.И. Пырхом. Данная комиссия должна была дать оценку деятельности поддержавших ГКЧП государственных и общественных организаций, должностных лиц и граждан. Результаты её работы подвели на заседании 28 октября 1991 года.



*Александр Ильянов*

Через десять лет их обнародовал известный российский исследователь советской истории Н.А. Зенькович.

Николай Зенькович с 1985-го по 1991 годы работал в партийном аппарате в Москве, возглавлял Пресс-центр ЦК КПСС. Он нашёл в архивах множество некогда засекреченных документов, в том числе и этот. Объёмная справка, подготовленная Временной комиссией, свидетельствует, что руководители Коммунистической партии Белоруссии на местах предприняли ряд действий, ведущих к разделу собственности и финансов КПБ. Специально для наших читателей приводим один эпизод, который вне сомнения будет им интересен:

«В процессе своей деятельности комиссия не могла пройти мимо ставших ей известными фактов незаконных сделок вокруг партийной собственности.

…В результате проверки Государственной налоговой инспекцией Министерства финансов БССР по Могилёвской области установлено, что за 1990 и 1991 годы обкомом КПБ внесены взносы в фонд и производилась оплата за регистрацию пятнадцати малых предприятий, других коммерческих учреждений, соучредителем которых он был. Всего внесено денежных средств 10 млн. 400 тыс. 200 руб. и за регистрацию 14000 руб.

В ходе расследования было принято решение назначить ревизию всей финансово-хозяйственной деятельности Могилёвского ОК КПБ за

*(Окончание на стр. 8)*

## ДЕНЬГИ КПСС НИКУДА НЕ ИСЧЕЗЛИ...

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

последние три года. Ревизия проводится группой ревизоров КРУ МФ по Могилёвской области. Уже установлено, что 22.08.1991 года управляющий делами Могилёвского ОК КПБ Сайков А.Д. самолично передал автомобиль ГАЗ-3102 («Волга»), принадлежащий Могилёвскому ОК КПБ, совхозу «Макеевичи» Климовичского района через директора этого совхоза Ильянова А.Н. Оплата совхозом не произведена. Как утверждает Ильянов А.Н., указанный автомобиль продан ОК КПБ совхозу, но платёжное поручение совхоза банком к оплате не принято в связи с приостановлением деятельности КПБ-КПСС. Однако уже ясно, что порядок оплаты нарушен. Сначала отпущена «Волга» лицом, не являющимся распределителем кредитов, а затем предпринята попытка её оплаты. Кроме того, директор совхоза Ильянов автомобиль в совхоз до сих пор не сдал, поставил в свой личный гараж и разобрал на детали. Возвращать его категорически отказался».

### СОВРЕМЕННЫЙ КОММЕНТАРИЙ:

Управляющий делами Могилёвского ОК КПБ Сайков не случайно передал «Волгу» Ильянову, ведь до назначения в Могилёв он был секретарём райкома партии в Климовичском районе. Что касается Александра Ильянова, то его востребовала уже новая власть. Лукашенко назначил его председателем Белыничского райисполкома, где он также оказался не в ладах с законом. После ряда скандальных историй был отправлен в отставку, но полностью с ним не распрощались. Сейчас Ильянов находится на руководящей должности в Минской области. Отдал ли он деньги за партийную «Волгу», неизвестно. Возможно, об этом могла бы рассказать Мария Глушакова, нынешний директор ОАО «Макеевичи» и парторг совхоза при Ильянове, но вряд ли она станет ворошить прошлое…

***Тимур Незванов***

## КІРМАШЫ Ў БЯЛЫНІЧАХ

Кірмашы “Добры дзень, восень!” пройдуць у Бялынічах 12 і 19 кастрычніка на пляцоўцы каля РЦК. Прадукцыю ўласнай вытворчасці тут будуць рэалізоўваць сельгасарганізацыі Бялыніччыны, раённае спажывецкае таварыства, прафесійны ліцэй №17. Жыхары і госці райцэнтра змогуць набыць мяса, зерне, бульбу, моркву, цыбулю, яблыкі і многае іншае.

Застаецца нагадаць, што пачынаючы з 20 верасня, штотыднёва па выходных на гарадскім рынку таксама працуюць міні-кірмашы сельгасвытворцаў.

## Шкловские грабители

30 сентября Шкловским межрайонным отделом СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 2 УК (Грабеж) в отношении неработающих жителей г. Шклова 1977 г.р. и 1983 г.р., которые 29 сентября в 19-30 на ул. Вокзальной с применением насилия открыто похитили 36 000 руб. у могилевчанина 1948 г.р. Похищенное изъято. Задержаны в порядке ст. 108 УПК.

## 10 000 ЭЛЕКТРОННЫХ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ У АДНЫМ МЕСЦЫ.

***Кнігі, аўдыё кнігі, газеты, аўдыё і відэа – усё гэта можна знайсці ў беларускай Інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org (www.kamunikat.org).***

Існуючы з 2000 года партал арыентаваны, у асноўным, на збор незалежных беларускіх выданняў, што з’яўляюцца вельмі нізкім тыражом. Ёсць і гістарычныя выданні: кнігі, газеты і часопісы, выдадзеныя ў Беларусі і ў эміграцыі.

Большая частка публікацый выстаўлена ў электронным выглядзе ўпершыню. Вы знойдзеце не толькі класікаў беларускай літаратуры, але і авангард.

Унікальнасцю гэтай калекцыі з’яўляецца тое, што за апошнія тры гады яна была ўзбагацілася поўны зборам беларускай эмграцыйнай прэсы пасляваеннага перыяд і беларускіх незалежных газет з пачатку 90-х XX стагоддзя.

Асобнай часткай бібліятэкі з’яўляюцца асабістыя старонкі беларускіх аўтараў, чые кнігі знаходзяцца ў нашай бібліятэцы (http://kamunikat.org/bielaruskija_autary.html) і раздзел “Што новага” (http://kamunikat.org/naviny.html), які дае магчымасць знаёміцца з навінкамі беларускага выдавецкага рынку.

Да гэтага часу на сайце сабрана больш за 10 000 беларускіх публікацыяў – кніжак, газэтаў, часопісаў, audio- і video-файляў, а яе рэсурсы ўвесь час пашыраюцца.

Бібліятэка карысная для студэнтаў і выкладчыкаў, вучняў і даследчыкаў. Бібліятэка спрыяе распаўсюду беларускай літаратуры, сягаючы ў самыя аддаленыя кропкі свету. Штодзённа бібліятэку адчыняюць ад 1500 да 2000 разоў.

Праект “Беларуская інтэрнэт бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, на працягу некалькіх гадоў мае фінансавую падтрымку Міністэрства замежных спраў Польшчы ў рамках праграмы «Польская дапамога”.

Беражыце лес – чытайце кнігі на Kamunikat.org!




ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.10. 2013 г. у 09-00.